*Пра першы дзень суда над Аляксандрам Бялецкім чытайце на 2-й стар.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 12 (4367)**

12 лютага 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

*13–15 лютага Аляксандр Лукашэнка будзе сустракацца ў Сочы з Уладзімірам Пуціным. Мяркуючы па ўсім, размова чакаецца няпростая.*

*Што мы, беларусы, можам сказаць Аляксандру Рыгоравічу на дарожку? Менавіта з гэтай нагоды “Народная Воля” і правяла апытанне шэрагу грамадзян.*

## Ваш наказ Аляксандру Лукашэнку перад сустрэчай з Уладзімірам Пуціным?

**Алесь ЛАГВІНЕЦ, выкладчык, перакладчык, грамадскі дзеяч:**

– Мне падаецца, што самае галоўнае – адстойваць тое, што трэба беларускаму народу, каб захаваць краіну і забяспечыць годнае жыццё яе грамадзян.

**Павел БЕЛАВУС, адзін з арганізатараў святкавання Дня Волі – 2019:**

– Я хачу, каб беларускі кіраўнік падчас сустрэчы памятаў, што ён – беларус і павінен у першую чаргу адстойваць інтарэсы саміх беларусаў.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі:**

– Скажу шчыра: прэзідэнт ўмее адстойваць беларускія інтарэсы, магу раіць чыноўнікам браць з яго ў гэтым прыклад. Я перакананы, што гэтыя перамовы патрэбны не толькі Беларусі, не менш яны патрэбны і Расіі. Гэта нашы ўзаемныя інтарэсы, таму веру, што сустрэча будзе канструктыўнай.

**Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

– Я працытаваў бы Лукашэнку перад цяжкай размовай з Пуціным дэвіз ягонага цёзкі Аляксандра Грыгор’ева з культавага савецкага рамана “Два капітаны” Веньяміна Каверына: “Змагацца і шукаць, знайсці і не здавацца».

**Андрэй КІШТЫМАЎ, гісторык:**

– Перад пачаткам сустрэчы абодва прэзідэнты павінны задаць пытанне: што народу скажам? Гэта галоўнае. На гэты раз моўчкі вярнуцца ў Мінск і ў Маскву не атрымаецца.

**Ірына ВЕШТАРД, намесніца старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Думаць пра незалежнасць нашай краіны. Калі не сёння, то пазней мы паспеем з’есці больш смачны кавалак хлеба, таму краіну нам абавязкова трэба зберагчы!

**Раман АНАНЬЕЎ, былы дэпутат парламента:**

– Не забываць, што менавіта ён, Аляксандр Лукашэнка, у адказе за лёс краіны, якая сёння з’яўляецца суверэннай і незалежнай. Беларусь і Расія – саюзнікі, нашым краінам трэба сябраваць, але будаваць адносіны выключна ў межах уласных інтарэсаў.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, адзін з кіраўнікоў кампаніі «Гавары праўду!»:**

– Я Аляксандру Лукашэнку параіў бы дзве рэчы. Па-першае, хопіць трымаць у тайне ад грамадства тое, што насамрэч адбываецца ў беларуска-расійскіх стасунках. Калі не інфармаваць людзей пра гэта, калі не арганізоўваць на розных узроўнях дыскусіі, то вынік можа быць сумны.

Па-другое, калі і весці перамовы з Масквой, то трэба асабліва не спадзявацца, што з дапамогай расійскага рынку мы зможам закрыць унутраную патрэбнасць у рэформах. Расійская нафтагазавая залежнасць – не панацэя. Чым больш моцная будзе наша эканоміка, тым лягчэй будзе весці перамовы з Расіяй любому беларускаму прэзідэнту.

**Іван ДУБАТОЎКА, настаўнік, г.Бяроза:**

– Газ, нафта, валюта, мытня – гэта, вядома, хвалюючыя пытанні. Але ёсць і іншыя праблемы. Мы з расіянамі знаходзімся, можна сказаць, у адной інфармацыйнай прасторы. А што ведаюць пра Беларусь жыхары Таймыра ці Уладзівастока? Нічога. Хай бы кіраўнік нашай краіны падняў гэта пытанне перад Пуціным. А то мы да Расіі з адкрытай душой, а яна ад нас адгарадзілася.

**Апытвалі:**
**Марына КОКТЫШ,**
**Алесь СІВЫ,**
**Міхась СКОБЛА.**

ТРАГЕДИЯ




## «Он ударил Сашу ножом много раз и со смехом убежал…»

*Происшествие в Столбцах всколыхнуло Беларусь. 11 февраля в СШ №2 г.Столбцы десятиклассник убил ножом учительницу и ученика 11-го класса. Еще двое школьников получили серьезные ранения. Их прооперировали.*

В 8 часов 5 минут 11 февраля в Столбцовский РОВД сообщили, что в СШ №2 райцентра ученик напал с ножом на учительницу и трех школьников.

Учительница и один из учеников умерли от полученных ран на месте.

Подросток, совершивший нападение, до приезда милиции успел убежать. По этой причине в шести районах Минской области ввели специальный план «Сирена». В 10 часов 14 минут МВД сообщило, что подозреваемый задержан сотрудниками уголовного розыска и ОМОН. Как рассказал источник, его задержали в одном из многоквартирных домов Столбцов.

«По предварительным данным, подозреваемый в нападении ученик 10-го класса пришел в школу около 7.40. Он поставил портфель и вышел из кабинета. Затем вернулся и напал на учительницу истории, которая должна была вести первый урок. За педагога попытались вступиться два одноклассника. Они получили ранения. После этого подозреваемый выбежал из класса и зашел в соседний кабинет, где напал на ученика одиннадцатого класса. 17-летний школьник в результате нападения погиб», – сообщил официальный представитель Следственного комитета Сергей Кабакович.

Убитой учительнице истории было чуть более 50 лет. По сведениям, полученным от жителей Столбцов, это Марина Михайловна Пархимович, пользовавшаяся авторитетом у педагогов и учеников. Нападавшего зовут Вадим, убитого 11-классника звали Александр.

Одноклассники убитого мальчика рассказывают, что Вадим зашел к ним в класс с улыбкой и ножом в руках. Но никто не подумал, что через несколько мгновений случится трагедия. По их словам, десятиклассник подошел к Саше и несколько раз ударил его ножом, после этого со смехом убежал. Дети в шоке от увиденного ринулись из класса. Открыли дверь соседнего кабинета, чтобы позвать на помощь, но увидели учительницу, лежавшую на полу, залитом кровью. Оказывается, ее он убил перед этим.

Погибший Саша хорошо учился. Его отец после сообщения о нападении на сына приехал в школу очень быстро. Мальчик еще был жив, умер у него на руках через пять минут. Удар, приведший к смерти, был нанесен Саше сзади в шею.

О подозреваемом в жестоких нападениях, которые унесли жизни двух человек и привели к серьезным ранениям еще двоих, отзываются как о тихом, спокойном мальчике, не замеченном в хулиганстве. Говорят, что у него были способности к математике и успехи в этом предмете, что на родительских собраниях его ставили в пример. Подозреваемый 2003 года рождения. Он из обычной семьи. Его отец – тракторист, мать – технический работник одного из коммунальных предприятий.

Рано делать какие-то выводы из этой страшной трагедии. Сердце каменеет: что делается на белом свете?

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

## Зварот
### групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў да беларускага народа

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

15 сакавіка 1994 года Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання пасля вялікіх і надзвычай напружаных спрэчак, якія адбываліся на працягу амаль чатырох гадоў, прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Рэспублікі Беларусь. Паводле зацверджанага 15 сакавіка 1994 года Асноўнага Закона нашай дзяржавы былі выбраны першыя Прэзідэнт, легітымны склад парламента – Вярхоўнага Савета 13-га склікання, сфарміраваны новыя органы выканаўчай улады і Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь.

У самым першым артыкуле нашага Асноўнага Закона зафіксаваны палажэнні, стратэгічна важныя для існавання ўсёй нашай нацыі цяпер і ў будучыні:

«Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.

Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак».

У артыкуле 18 Канстытуцыі недвухсэнсоўна вызначана:

«Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права.

Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз’ядзернай зонай, а дзяржаву – нейтральнай».

Такім чынам, асэнсоўваючы сябе паўнавартасным суб’ектам супольнасці народаў свету, пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцяў, грунтуючыся на сваім неад’емным праве на самавызначэнне, абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у прынятай Канстытуцыі сцвердзіў суверэнітэт і незалежнасць нашай дзяржавы як найвялікшую каштоўнасць для кожнага грамадзяніна Беларусі.

Незалежнасць Беларусі – гэта набытак не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў; яна таксама належыць нашым нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні любых дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях да росквіту Айчыны, спрыяюць умацаванню стасункаў нашай краіны з міжнароднай дэмакратычнай супольнасцю народаў.

Згодна з арт.3 нашай Канстытуцыі, «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляецца народ». У сувязі з гэтым мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, заклікаем усіх грамадзян краіны і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол дасягнутай Незалежнасці нашай Бацькаўшчыны і зрабіць усё магчымае, каб на вякі захаваць і замацаваць суверэнітэт нашай дзяржавы!

Прынята сходам групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў.

9 лютага 2019 г., горад Мінск.

***

*УВАГА! Паводле рашэння сходу, тыя дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, якія з розных прычын не маглі ўзяць у ім удзел, могуць далучыцца да гэтага Звароту, даслаўшы да 15 сакавіка б.г. пісьмовае паведамленне на адрас электроннай пошты: **volbiel@gmail.com** або на электронны адрас рэдакцыі “Народнай Волі”: **nvonlineinfo@gmail.com.***

З НАГОДЫ

## Слёзная сустрэча

Так, падчас сустрэчы ў мінулую суботу дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў у многіх на вачах былі слёзы. З аднаго боку, слёзы радасці, што праз многа-многа гадоў убачыліся, што яшчэ, дзякуй Богу, жывыя, а з другога – слёзы роспачы з-за таго, што на сустрэчу з’явілася вельмі і вельмі мала былых парламентарыяў. Хоць і арганізоўвалася сустрэча з надзвычай сур’ёзнай, можна сказаць, лёсавызначальнай нагоды.

Вы, чытачы “Народнай Волі”, ведаеце: некалькі тыдняў таму ў рэдакцыю газеты і на яе сайт паступіў ліст ад старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Мечыслава Іванавіча Грыба (падпісанта першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі). Па даручэнні арганізацыйнага камітэта ён звярнуўся да былых калег па парламенце з прапановай сустрэцца 9 лютага, напярэдадні 25-годдзя з дня прыняцця першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі. Той Канстытуцыі, у якой па волі народа сцверджаны суверэнітэт і незалежнасць нашай краіны, што з’яўляецца найвялікшай каштоўнасцю для кожнага яе грамадзяніна.

Як дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання і тагачасны галоўны рэдактар парламенцкай “Народнай газеты”, я добра помню той дзень, калі пасля доўгіх і надзвычай напружаных спрэчак-дэбатаў быў нарэшце пад урачыстыя воклічы прыняты апошні артыкул Асноўнага закона дзяржавы, які абвяшчаў **Незалежнасць** краіны. Але мінулі 25 гадоў. І, на жаль, наступілі часы, калі нам, дэпутатам, якія прагаласавалі за першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі, трэба з усёй сілы біць у званы. Відавочным становіцца знешні замах на наш суверэнітэт, на нашу самастойнасць, на нашу самаідэнтычнасць.

Здавалася б, ініцыятыва Мечыслава Іванавіча Грыба і членаў аргкамітэта знойдзе водгук у сэрцы кожнага, хто некалі закладваў цагліны ў падмурак сучаснай Беларусі. У складзе Вярхоўнага Савета 12-га склікання было 360 (!) народных дэпутатаў. Шкада, што многія, вельмі многія не дажылі да сённяшніх дзён. Але яшчэ каля 200 чалавек працягваюць свой зямны шлях. І калі дазваляе здароўе, то чаму ж ім не сказаць сваё цвёрдае слова ў абарону таго, за што змагаліся чвэрць стагоддзя таму?!

Стаўлю пытальнік з клічнікам і ледзь-ледзь стрымліваю слёзы. На сустрэчу, якая шырока афішыравалася ў розных сродках масавай інфармацыі, з’явіліся ўсяго пару дзясяткаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Можна лічыць, што хто-ніхто зваліўся ад грыпу ці адчуў недамаганне (узрост!) ад даўно дапякаючых хранічных хвароб. Але ж, скажу адкрыта, я ведаю нямала тых, хто не з-за дрэннага здароўя ўхіліўся ад сустрэчы з былымі парламенцкімі калегамі (многія з іх могуць яшчэ з касалапым пабарукацца). Прычына мне добра вядома. У Вярхоўным Савеце 12-га склікання было некалькі неафіцыйных фракцый. Адна з самых шматлікіх мела назву “Беларусь”. У яе ўваходзілі ў асноўным наменклатуршчыкі, якія і прэзідэнцкае кіраўніцтва ў краіне адваёўвалі толькі таму, што ў крэсле “цара” бачылі тагачаснага прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча, якім яны праз пэўныя яго якасці маніпулíравалі як хацелі. А калі іх Францавіч падчас выбараў праляцеў, як фанера над Парыжам, цугам пацягнуліся ў абдымкі да Лукашэнкі. І, вядома ж, як былі наменклатуршчыкамі, так і засталіся імі, многія атрымалі самыя высокія пасады – хто ляпнуўся ў крэсла віцэ-прэм’ера, хто ўзначаліў вобласць ці раён, хто паехаў амбасадарам за мяжу, хто пралез у Адміністрацыю прэзідэнта, хто ўскараскаўся на прафсаюзны алімп… Працерлі не адну пару нагавіц, а карысці для краіны прынеслі – кот наплакаў. Не разумею толькі, за што Лукашэнка падкінуў ім вялікія пенсіі! Я перакананы: большасці з іх да лямпачкі, што навісла пагроза незалежнасці Беларусі. У некаторых з іх цяпер расійскае грамадзянства, і яны, кажуць, ужо пратапталі дарогу да пасла Бабіча, крамлёўскага наглядчыка ў Беларусі.

Улады ў свядомасць простых людзей ужо многа гадоў убіваюць штамп, што ўсе беды ў нашай краіне з-за “пятай калоны” – апазіцыі. Я ў прынцыпе з гэтым не згодны. Па-першае, апазіцыя ў нас задушана ў зародку, як толькі ў выгнанні апынуўся Зянон Пазьняк. Сённяшні дысідэнцкі рух – гэта ніякая не апазіцыя ў класічным разуменні. Я лічу, што “пятая калона” – гэта першнаперш так званыя прыкарытнікі. Некалі яны карміліся з партыйных кас, потым – з рук Кебіча, а калі кінуліся да Лукашэнкі, то таксама атрымалі па поўным чарпаку. Я ўпэўнены: калі, барані Бог, на беларуска-расійскай мяжы з’явяцца “зялёныя чалавечкі” – яны скінуць шапкі і будуць маліцца на іх. Як здалі з трыбухамі камуністычную партыю, як здалі Кебіча, так здадуць і Лукашэнку.

А Беларусь, яе суверэнітэт і незалежнасць сапраўды ў небяспецы. Паглядзіце, як крамлёўскія імперцы заганяюць у кут Аляксандра Рыгоравіча. І аднаму яму наўрад ці з імі справіцца. Вось чаму група дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, якая сустрэлася ў суботу ў Міжнародным адукацыйным цэнтры, прыняла зварот да беларускага народа з заклікам гуртавацца і ўсімі законнымі сродкамі бараніць і адстойваць суверэнітэт, незалежнасць і дэмакратычны лад Рэспублікі Беларусь. Толькі застаючыся гаспадарамі на сваёй зямлі, мы будзем шчасліва сябе пачуваць у роднай Беларусі.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 ЛЮТАГА 2019 г.

РАЗВІТАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

# Сямён ДОМАШ: «Я ўсім дарую...»

*Учора, 11 лютага, у Гродне развіталіся з Сямёнам Домашам. Яго смерць была раптоўнай – спынілася сэрца, калі быў за рулём...*



кажу, што Домаш – гэта лепшы з кандыдатаў, якія былі ў беларускай дэмакратыі за ўвесь час. Сапраўды, ён мог быць прымальным і для тых, хто ва ўладзе, і для тых, хто ў апазіцыі, і для простых людзей.

Але ён развітаўся па-англійску, калі замест яго адзіным стаў Ганчарык. У Домаша характар цвёрды і рашучы. У гэтым таксама прыстойнасць ёсць.

Некаторыя яго асудзілі, што, маўляў, пайшоў працаваць ва ўладу. Тады была пэўная прэтэнзія ў дэмакратаў, лічылі, што, калі ён саступіў Ганчарыку, мог выйсці пасля выбараў у белым касцюме і сказаць: паслухайце, я ўсё зрабіў, а дзе перамога? І застацца такім моцным лідарам, аўтарытэтам. І пэўны час ён спрабаваў. Але потым атрымалася, як атрымалася. Складаны лёс, адным словам...

Да таго ж ён не ўсё разумеў у гэтых апазіцыйных гульнях. Яму, чалавеку адкрытаму і прыстойнаму, цяжка было зразумець усе гэтыя падводныя камяні.

Дзеці Сямёна Домаша жывуць у Беларусі. Добра выхаваныя, разумныя. Жонка ў яго класная! Карацей, ён амаль ідэальны чалавек. Канешне, Сямён Домаш мае і нейкія адмоўныя рысы, але ў каго іх няма?

Ён быў прабеларускі, рабіў у Гродне шчырую мяккую беларусізацыю, культуру падтрымліваў. Быў памяркоўна празаходнім, разумеў, што ўсё ж такі Беларусь павінна быць у Еўропе. Многа чытаў, у яго вельмі вялікая бібліятэка...»

## «Складаны лёс...»

У 2001 годзе Сямён Домаш быў непараўнальна мацнейшым кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду, чым іншыя, – так сёння лічыць былы старшыня руху «За Свабоду!» Аляксандр Мілінкевіч.

Наколькі такое меркаванне аб'ектыўнае – сказаць цяжка. Але я ўзгадваю многія выступленні Сямёна Мікалаевіча. Гаварыў ён па справе, адчувалася, што жыццё ведае не па падручніках.

І ўсё ж А.Мілінкевіч некалькі гадоў працаваў побач з Домашам, вось яго далейшыя развагі:

«Да яго вельмі добра ставілася наменклатура. І ў Домашы бачылі не камсамольскага наменклатуршчыка, а чалавека, які сам сябе зрабіў.

Домаш пачынаў звычайным механікам на аўтабазе ў Астраўцы. Потым стаў начальнікам аўтабазы. Праз нейкі час яго абралі старшынёй Лідскага гарвыканкама. Потым ён быў «мэрам» Гродна.

У 1990 годзе ён паклікаў мяне да сябе. Кажа, ты мне для балансу патрэбны. Мы з ім тры гады прапрацавалі, а потым ён пры падтрымцы Станіслава Шушкевіча быў абраны (прычым сапраўды абраны!) губернатарам. Домашу тады было 43 гады. Я вам скажу, што і сёння аб ім у Гродне вельмі добра адгукаюцца.

Я быў у Домаша кіраўніком штаба падчас кампаніі 2001 года, ведаю яго па рабоце ў выканкаме. Гэта абсалютна дастойны чалавек, прафесійны, умее ствараць каманду. Я і сёння адкрыта

З ЯГО ЖЫЦЦЯ...

## «Не хачу ўзгадваць...»

Пасля сыходу з вялікай палітыкі Сямён Домаш не даваў інтэрв'ю. Ён нават змяніў нумар мабільнага тэлефона. Але некалькі гадоў таму мы паразмаўлялі. Сямён Мікалаевіч, здымаючы слухаўку, замест звыклага «Алё!» ці «Слухаю!» адказваў па-беларуску: *«Калі ласка...»*

Пра палітыку ён гаварыць тады адмовіўся. І пра людзей у палітыцы таксама.

*«Не хачу ўзгадваць»*, – коратка адказаў ён.

Гэта прыблізна праз год-паўтара пасля таго, як Домашу не працягнулі кантракт на гарбарным заводзе, Сямён Мікалаевіч казаў так: «*З аднаго боку, кантракт скончыўся, узрост. А з іншага – я хацеў пабудаваць новы завод у Гродне. Але мне некаторыя таварышы пры ўладзе перашкодзілі гэта зрабіць. Хоць і інвестар быў, і праект добры. Але таксама – без падрабязнасцяў*».

Апошнім часам для Сямёна Домаша галоўным было здароўе. І падтрымка сям'і.

«*Самае галоўнае, што здароўе ёсць. Праца ёсць. Працую, як і раней, шмат. Мне іншы раз нават сутак не хапае... Людзі, якія побач, выдатныя. Сям'я – добрая. А што яшчэ трэба ў жыцці?*»

**Марына КОКТЫШ.**

**(Фота «НН»).**

### З асабістай справы

*Сямён Домаш нарадзіўся 2 студзеня 1950 года ў вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Вышэйшую партыйную школу (1976), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі па спецыяльнасці «эканаміст» (1981). Працаваў механікам, галоўным інжынерам, дырэктарам Астравецкай аўтабазы №4, займаў шэраг іншых пасад.*

*Быў старшынёй Гродзенскага аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (з 1995 г.)*

*У ходзе лістападаўскага рэферэндуму 1996 года выступіў супраць А.Лукашэнкі. Увайшоў у Нацыянальны выканаўчы камітэт (ценявы ўрад, створаны апазіцыяй).*

*Жанаты, бацька двух сыноў.*

ИЗ ЗАЛА СУДА

# «Шакутин дал 170 тысяч долларов...»

*Вчера, 11 февраля, в Минском городском суде начался процесс по одному из самых громких и скандальных эпизодов в коррупционном «деле медиков» – в отношении бывшего директора РНПЦ травматологии и ортопедии, академика, лауреата Государственной премии* ***Александра Белецкого****.*

При обыске по месту его жительства было найдено денежных средств на сумму, эквивалентную почти полумиллиону долларов, а также огромное количество дорогостоящих спиртных напитков. Причем кадры с этими «вещдоками», изъятыми оперативниками, были продемонстрированы на всю страну по Белорусскому телевидению. И вот суд. Журналисты и все присутствующие в зале раскрыли рты, когда услышали, что Белецкому предъявлены обвинения в получении взяток на общую сумму... 4 тысячи евро и 3 тысячи долларов по четырем эпизодам. Как так?

Но обо всем по порядку.



**Александр Белецкій (в центре) перед началом суда.**

## В ускоренном темпе?

Травматолога Александра Белецкого задержали 5 июля 2018 года в рабочем кабинете. Несмотря на выдвинутые в его адрес серьезные обвинения, через шесть месяцев он был отпущен под домашний арест (бывший замминистра здравоохранения **Игорь Лосицкий**, которого так же, как и Белецкого, обвиняли в совершении преступления по ч.3 ст.430 УК, находился под стражей и до суда, и во время судебного процесса). Выйдя на свободу, академик Белецкий, по некоторой информации, подумывал даже о трудоустройстве, не дожидаясь завершения следствия. Хотя в суде заявил, что в настоящее время он пенсионер.

Следствие по делу Белецкого было быстро завершено: еще в конце января бывших подчиненных Белецкого вызывали на допрос в КГБ, в РНПЦ проводили следственные эксперименты, а уже 11 февраля начался судебный процесс. Выходит, что на ознакомление с материалами дела у академика Белецкого было менее двух недель.

Судебное заседание, судя по всему, тоже продлится недолго. Только вчера во время первого дня слушаний был не только допрошен Александр Белецкий, но и зачитаны материалы уголовного дела, начался допрос свидетелей.

К слову, Белецкому все же предъявлено обвинение по ч.3. ст.430 УК, которая подразумевает получение взятки в особо крупном размере либо лицом, занимающим ответственное положение. Санкции по этой статье – лишение свободы на срок от пяти до 15 лет с конфискацией имущества и с лишением права занимать определенные должности или заниматься определенной деятельностью.

## «Не должен был брать. Полностью согласен с этим обвинением»

Из гособвинения, озвученного в суде прокурором **Сергеем Гергелем**, выходило, что академик Белецкий, будучи директором РНПЦ травматологии и ортопедии, в период с 2016-го по 2018 год совершил ряд преступлений. А именно: в конце декабря 2016 года в своем рабочем кабинете принял не менее одной тысячи евро от представителя коммерческой структуры «Медисфера» **Бориса Ранчинского** за то, что с этой фирмой РНПЦ заключил договор на обслуживание медтехники и своевременную оплату проделанных работ. От Ранчинского Белецкий также получал вознаграждения еще дважды – одну тысячу евро в декабре 2017 года и две тысячи евро в апреле 2018 года. Четвертый эпизод в деле академика – получение взятки от представителя компании «Белреамед». Из материалов дела следовало, что представитель фирмы передала Белецкому 3 тысячи долларов США для благоприятного сотрудничества.

Во время допроса Александр Белецкий рассказал, что в комиссию по закупкам РНПЦ он не входил, но утверждал ее состав и ставил свои подписи под финансовыми платежками.

Что касается получения взяток, то Александр Белецкий так пояснял в суде. С представителем «Медисферы» Борисом Ранчинским он знаком более 25 лет. Были хорошими приятелями, жена Ранчинского – одноклассница Белецкого. Он помогал семье с лечением, консультациями. «*Отношения были товарищескими*, – рассказывал Белецкий. – *Он, например, как-то пришел и попросил помочь с паспортом. Дочь лет 20 назад по студенческой визе уехала в США, вышла там замуж... А у меня хороший знакомый – помощник президента Валера, – и я помог*».

Деньги, которые Ранчинский передавал ему в служебном кабинете, Белецкий не расценивал как взятку: «*В декабре 2017 года он сказал, что это подарок к юбилею. В ноябре мне исполнилось 60 лет, а его в это время не было в Беларуси*». Полученные в 2018 году от Ранчинского 2 тысячи долларов Белецкий потратил на поездку белорусских травматологов на конгресс в Барселону. «*Было 12 человек, семь устных докладов*, – говорил Белецкий. – *Деньги ушли на оплату организационного взноса, банкет и экскурсии*». Однако чеков не сохранилось.

Судья **Валентина Зенькевич** задала вопрос обвиняемому: «*Если вы были приятелями, то почему Ранчинский домой к вам не приехал, а передавал деньги в служебном кабинете?*» – «*Я осознаю, что все это неправильно. Не должен был брать. Полностью согласен с этим обвинением*».

Что касается четвертого эпизода – денежного вознаграждения от представителя компании «Белреамед», то пояснения Белецкого, мягко говоря, выглядели несерьезно. Он рассказывал, что приблизительно в апреле 2017 года к нему пришла в кабинет его хорошая знакомая **Инга Шалькевич** и передала пакет, в котором были чай, бутылка коньяка и конверт. От кого этот пакет, он не знал, тем более – с какой целью его передали. Только через неделю Белецкий обнаружил в конверте 3 тысячи долларов. Когда позже спросил у Шалькевич, что за конверт, та ответила: «*Не знаю, руководитель просил передать*». Руководитель «Белреамед» – **Николай Оганесян**. Белецкий утверждает, что никогда лично не был с ним знаком. «*Оправдания мне нет, надо было сразу идти в милицию с этим конвертом*, – говорил Белецкий во время допроса в суде. – *Раскаиваюсь, полностью осознаю вину*.

## «Зачем это выносить на суд?»

Безусловно, широкую общественность интересует, откуда у Александра Белецкого взялись денежные средства на сумму в эквиваленте 500 тысяч долларов, найденные при обыске оперативниками КГБ. Но, к слову, эти деньги не фигурируют в материалах дела. Несмотря на это, государственный обвинитель в суде решил выяснить их происхождение. «*У вас обнаружена большая сумма денег дома, на вкладах. Можете пояснить их происхождение?*» – спросил прокурор Белецкого.

– *На следствии я все пояснил, зачем это выносить на суд?* – заметил Белецкий. – *Я называл следователям ряд лиц, с которыми давно знаком. Называл суммы, практически все совпало. Еще просил взять мою зарплату, квартиру родителей.*

*У меня 5 близких друзей... Например, с Сашей Шакутиным со студенческих лет дружим. Он на протяжении 20 лет помогал мне финансово, это не было тайной. Он обеспеченный и богатый человек... Валера Шумский – владелец двух нефтеперерабатывающих заводов в Саратовской области – одолжил мне 140 тысяч долларов на покупку дома для сына. Следователи спрашивали: «Почему расписку не взял?» Он (Шумский. –* ***Авт.****) ответил: какую с «родного брата» расписку брать? А на вопрос «Если не вернет?» ответил, что и не ждет этого.*

Прокурор поинтересовался у Белецкого, что он может сказать о Широком.

– *Я рано стал оперировать*, – пояснил Белецкий. – *Выполнял все операции, которые есть в травматологии. В 1995–1996 годах стало поступать много пациентов с ножевыми, огнестрельными ранениями. «Братки», – как их называли. Одного – Юрия Поликова – я спас. И пошла молва: мол, в 6-й больнице хорошо оперируют... Потом из мест лишения свободы вышел Широкий, обратился ко мне. Я оперировал ложный сустав ключицы. Не срослось, оперировал повторно – и все удачно... Это я при обыске в состоянии аффекта сказал, что деньги мне бандиты дали...*»

После перерыва в суде прокурор Сергей Гергель зачитал фрагмент допроса Александра Белецкого у следователя КГБ еще в июле 2018 года, на котором Белецкий рассказывал, кто и сколько ему давал денег. Тогда прозвучали такие суммы: **Шакутин** в общей сумме – 170.000 долларов, **Шумский** – 30.000, **Варфоломеев** – 50.000. Это за 8–10 лет.

А в судебном заседании Белецкий пояснил: это было навскидку, по всем деньгам потом в ходе следствия было выяснено их происхождение, все до копейки. Он поделился одной деталью: «*Шакутин мне говорил, что я должен летать бизнес-классом и жить в пятизвездочных отелях. А я летал экономом и жил со всеми*».

Также в суде Белецкий подробнее объяснил свои показания на допросе о денежном вкладе. Рассказал, что еще лет 20 назад положил в «Приорбанк» вклад на 18.000 долларов, а сейчас там накопилась сумма в 51.000, и этот вклад находится в Банке ВТБ, потому что там лучший процент.

Закончилось вчера судебное заседание допросом свидетелей. Первым допросили Бориса Ранчинского и Ингу Шалькевич.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**Фото Сергея БАЛАЯ (БелаПАН).**

1994 – 2019

# Мечыслаў ГРЫБ: «Нельга забываць пра той шлях, які прайшла Канстытуцыя...»

Набліжаецца знамянальная дата – 25 гадоў з таго дня, калі Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання пасля працяглых і напружаных дэбатаў прыняў першую Канстытуцыю незалежнай Беларусі.

Падчас сустрэчы групы дэпутатаў, якая ў мінулую суботу адбылася ў Міжнародным адукацыйным цэнтры, экс-спікер **Мечыслаў Грыб** успомніў тых былых парламентарыяў, каго ўжо няма на гэтым свеце. А гэта – амаль ці не палова дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць Сямёна Домаша, былога калегі і кіраўніка Гродзеншчыны, які пайшоў з жыцця якраз у той дзень.

Мечыслаў Грыб нагадаў, што за ўвесь час работы Вярхоўны Савет разгледзеў і прыняў 404 законы і 1300 пастаноў, якія тычыліся дзейнасці грамадства ў галіне эканомікі, палітыкі, сацыяльнай бяспекі, абароны і г.д.

– *Працы было шмат. І ў нас не было тады ніякіх інстытутаў, якія распрацоўвалі б праекты законаў. Мы ўсё рабілі самі. Галоўнае ж было – стварэнне Канстытуцыі. Праца над ёй распачалася ў 1990 годзе, калі Вярхоўны Савет зацвердзіў канстытуцыйную камісію. Тады былі створаны дзве працоўныя групы, першую ўзначаліў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета, ужо нябожчык, Васілій Шаладонаў, другую – таксама, лічым, нябожчык, дэпутат Віктар Ганчар. Группы працавалі паралельна амаль год, потым аб'ядналіся.*

Казаў **Мечыслаў Грыб** і пра тое, што Канстытуцыя прымалася вельмі цяжка, па частках, па артыкулах. Кожны пункт яе шматразова абмяркоўваўся. Праект галоўнага закона краіны двойчы друкаваўся ў СМІ: выносіўся на суд грамадскасці. Накіроўваўся на кансультацыйнае заключэнне ў Польшчу, Чэхію, Вялікабрытанію, Расію, прайшоў адабрэнне Венецыянскай камісіі.

– *Нельга забываць пра той шлях, які прайшла Канстытуцыя*, – казаў **Мечыслаў Грыб**. – *Калі б людзі жылі па ёй, то былі б ёю абаронены.*

Гісторык **Валянцін Голубеў**, былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання ад Апазіцыі БНФ, упэўнены: былі і памылкі, і праблемы. І пра іх трэба гаварыць сёння, каб не дапускаць такога ў будучым.

– *Шмат маніпуляцый звязана з прыняццем Канстытуцыі. Успомнім толькі той факт, як Вячаслаў Францавіч Кебіч прымусіў працоўную групу камісіі літаральна за два тыдні перарабіць праект Канстытуцыі з парламенцкай рэспублікі на парламенцкую, але ўжо з пасадай прэзідэнта. І нават Аляксандр Лукашэнка пасля гаварыў, што ў Канстытуцыі ёсць пэўныя неадпаведнасці. І яны сапраўды былі: вельмі вялікая роля надавалася дзейнасці парламента, бо спачатку рабіўся дакумент пад парламенцкую рэспубліку. Аднак калі б Канстытуцыя была прынята ў першым варыянце як парламенцкая, яна была б ідэальная.*

**Валянцін Голубеў** усё ж прызнаўся: ён ганарыцца тым, што ў Беларусі ёсць Канстытуцыя, Асноўны Закон незалежнай краіны.

– *Але ж трэба ведаць, што ў палітыцы нічога проста так не здараецца, і ў нашай дзейнасці не ўсё было роўна*, – лічыць гісторык.

Дэпутат **Сяргей Папкоў** зачытаў зварот да прысутных ад лідара апазіцыі, кіраўніка Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ **Зянона Пазьняка**. Свой ліст ён даслаў з ЗША, дзе жыве з 1996 года. Галоўны яго пасаж – Беларусь трэба бараніць ад пуцінскай Расіі. Паводле яго меркавання, трэба спыніць стварэнне Саюзнай дзяржавы, выйсці з АДКБ, узвесці на мяжы з Расіяй памежны кантроль і стаць нейтральнай дзяржавай, як таго патрабуе Канстытуцыя.

На гэтую заяву адрэагаваў дэпутат **Уладзімір Цялежнікаў**. Ён заклікаў калег не правакаваць канфлікты і супрацьстаянне.

Выступленне дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання **Віктара Хоміча**, старшыні камісіі па Чарнобыльскіх праблемах, многія з прысутных у зале ацэньвалі як «не па тэме». Але ён, не звяртаючы ўвагі на абразлівыя каментарыі, сказаў, што да прынятай Канстытуцыі асабіста ў яго больш за 80 заўваг, некалькі з іх агучыў. Па-першае, асноўны дакумент ён назваў занадта «пяжным, ласковым і беззащитным», які ўвогуле не абараняе правы народа. Галоўная прэтэнзія выступоўца да яе распрацоўшчыкаў: у Канстытуцыі прапісана двухступеньчатая працэдура імпічменту, праз якую немагчыма прайсці, бо заканчваецца яна Канстытуцыйным судом, які не выбіраецца народам. Нічога не сказана ў Канстытуцыі пра права грамадзян звяртацца ў Канстытуцыйны суд, а таксама пра рэферэндумы.

А **Сяргей Калякін**, лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», які таксама быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, казаў, што мы стаім на парозе сур'ёзных выклікаў. І шмат што залежыць ад тых людзей, якія сёння знаходзяцца ў зале Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра.

– *Вы маеце пэўны аўтарытэт сярод сваіх знаёмых і сяброў. Можаце прасоўваць інтарэсы Беларусі ў патрэбным кірунку. Кожны з вас многае зрабіў для мінулага краіны, але можа яшчэ ў значнай ступені паўплываць на яе будучыню.*

Былы лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў **Анатоль Лябедзька** прызнаўся, што верыць у лепшае:

– *25 гадоў таму людзей, якія выходзілі на вуліцы з плакатам «За незалежную, суверэнную Беларусь», хапалі і везлі на Акрэсціна. Сёння ж на мінскіх вуліцах красуюцца плакаты «За Беларусь». Хоць гэта не «Жыве Беларусь!», але ж па сутнасці – тое самае. Гэта азначае: выйграна стратэгічная бітва.*

Напрыканцы сустрэчы яе ўдзельнікі прынялі зварот да беларускага народа. Таксама было вырашана стварыць працоўную групу, якая стане адказнай за арганізацыю клуба дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

**Кацярына МЯДЗВЕЦКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 ЛЮТАГА 2019 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## У начальнікаў усіх і напраўду дрэнны слых

Выступаючы перад навукоўцамі, прэзідэнт сказаў, што начальнікаў трэба праверыць на слых, таму што «не ўсе яны нармальна чуюць, калі ім распараджэнні аддаеш, даводзіш нейкія задачы…»

Наш прэзідэнт сказаў адкрыта:
Начальства мае дрэнны слых.
А гэта ўсё-такі эліта,
І чуць павінна лепш за ўсіх.
Чаму да гэткае высновы
Прыйшоў дзяржавы кіраўнік?
Амаль ніхто не чуе словы –
Ні шэпт ягоны і ні крык.
Ім прэзідэнт дае загады,
Задачы ставіць дзень пры дні,
А ў іх адсутныя пагляды,
І за сталом сядзяць, як пні,
Таму што слых зусім паганы –
Хоць кол на галаве чашы!
І не выконваюцца планы,
І не працуюць ад душы.
Ды ў тым, што Бацьку чуюць дрэнна,
Няма вялікае бяды.
А горш другое, несумненна:
Слых вельмі кепскі сапраўды,
Бо ці заўжды, ці досыць часта
Ва ўсёй краіне, там і тут
Не чуе нашае начальства,
Што кажа-просіць просты люд…

## Паляшук грабе, як крот: возьме танк і самалёт

У Лельчыцкім раёне ў стозе сена знайшлі 100-кілаграмовую бомбу, якая праляжала там дзясяткі гадоў. Яе калісьці аднекуль прывалок мясцовы жыхар, які ўжо сканаў.

Бываюць рознымі знаходкі:
Калье, пярсцёнкі, кашалькі…
Любому з нас прыемна ўсё-ткі
Няўзнак займець сюрпрыз такі.
І трэба ж здарыцца, што дзесьці
Нагледзеў бомбу паляшук
І змог дамоў яе прынесці,
Хоць надзімаўся, як капшук,
І як мага напружваў цела,
Бо тая бомба сто кіло!
З боепрыпасам, зразумела,
Ён не пасунуўся ў сяло,
Дзе на здабычу, несумненна,
Паквапіцца ўчастковы мог.
Свой скарб мужык схаваў у сена,
На лузе складзенае ў стог.
Напэўна, хтосьці запытае:
Нашто яму, палешуку,
Спатрэбілася бомба тая?
Збіраўся кінуць у раку,
Каб наглушыць ад пуза рыбы?
Ад бомбы быў бы ўрон такі,
Што злыдня выгналі б з сядзібы
І рыбакі, і землякі.
Хацеў ён узарваць кагосьці,
Падклаўшы бомбу спадцішка?
Усе мы ведаем, што злосці
Нямашака ў палешука.
Прыдумаць можна многа версій,
Тым лікам нават пра вайну,
Аднак, сябры мае, наверсе
Я бачу ўсё-такі адну:
Мужык палескі – не тупіца
І пад сябе грабе, як крот.
У гаспадарцы прыгадзіцца,
Ён лічыць,
Танк і самалёт…

## Сціплы тата

– А тата сціплым быў калісьці?
– Ну што табе, сынок, сказаць?
Каб быў нясціплым,
Ты ў калысцы
Раней з’явіўся б год на пяць…

## Чаму бяжыць даішнік

Калі да вас уздоўж дарогі,
Махнуўшы палкай паласатай,
Спяшаецца даішнік строгі,
Прычым бяжыць ён так заўзята,
Што аж ляціць з падноскаў глеба,
Дык тут жа просіцца выснова:
Яму не проста грошы трэба –
Яны патрэбны тэрмінова…

## Не даравалі…

У Даравальную нядзелю
Я ў банк усё ж нанёс візіт.
Але дарма: не захацелі
У банку дараваць крэдыт…

## Скаварада

Развод. Скаварада адна
Мне дасталася – вельмі мала.
Аднак дапамагла яна,
Каб я астатняе забрала…

## Харошы повар

Напэўна, думаю тыпова:
Харошы повар – лысы повар.

## Будзе ўсё наадварот

Цікавяць хлопчыкаў машынкі,
Гуляюць з лялькамі дзяўчынкі.
А пройдзе нейкіх дзесяць год,
І будзе ўсё наадварот…

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК

### Напісаць прэтэнзію

*Ці можна пры наяўнасці недахопаў альбо дрэнна аказанай паслузе напісаць прэтэнзію ў вольнай форме?*

**Святлана НІКІТЧАНКА, г.Слуцк.**

– Спажывец мае права пісаць прэтэнзію ў вольнай форме, але лепш звярнуцца за парадай да спецыяліста. Так будзе эфектыўней.

### Ці можна вярнуць кантактныя лінзы?

*Набыла кантактныя лінзы, а яны мне не падыходзяць. Ці можна вярнуць іх назад?*

**Валянціна КОРЗУН, г.Пінск.**

– Такі тавар у магазін (альбо аптэку) вярнуць нельга.

### Скасаваць дамову

*Заключыў дамову з рыэлтарам аб пошуку кватэры, заплаціў яму аванс. Але праз некалькі дзён я самастойна знайшоў добры варыянт. Ці можна мне вярнуць свае грошы?*

**Пётр РАКАВЕЦ, г.Дзяржынск.**

– Гэта права спажыўца – скасаваць раней складзеную дамову з вяртаннем авансу.

### Фірма няякасна зрабіла сваю справу

*Паставілі шклопакеты, але дзверы на балкон шчыльна не зачыняюцца. Што рабіць у такой сітуацыі?*

**Андрэй МУРАШКА, Мінск.**

– Эксперты павінны высветліць, хто вінаваты ў гэтай сітуацыі. Можаце заявіць прэтэнзію ў фірму на ліквідацыю недахопаў альбо на скасаванне дамовы падраду з кампенсацыяй матэрыяльнага і маральнага ўрону.

### Прысутнічаць падчас экспертызы

*Ці маю я права прысутнічаць падчас экспертызы тавару?*

**Віктар ВАРАНЕЦ, г.Вілейка.**

– Экспертызу тавару мае права праводзіць спажывец альбо адказчык. На правядзенне экспертызы запрашаюцца ўсе зацікаўленыя бакі.

ФОТАФАКТ

## Вось гэта велікан!

*У вёсцы Краснае Маладзечанскага раёна мясцовыя ўмельцы зляпілі гіганцкага снегавіка. У вышыню ён дасягае 7 метраў.*

Не паведамляецца, колькі часу і людзей спатрэбілася, каб зрабіць такі “мастацкі твор”, але відавочна адно – дзецям снежная скульптура прыйшлася даспадобы.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**



ПО ПОВОДУ

## Кефир будет снова в стеклотаре?

Прочитал, что в правительстве создана рабочая группа по замене ПЭТ-бутылок на стеклянные. Для экологии это вроде хорошо. Но с другой стороны… Как это ребенок в школу будет носить стеклотару – тяжесть дополнительная, опасность разбить при падении. Такая участь, похоже, уготована и всем взрослым, студентам, пожилым. Значит, питьевая вода в магазинах, напитки, молоко/кефир будут в стеклотаре... А вместо 5-литровых емкостей с питьевой водой придется иметь металлическую канистру...

В прессе пишут, что в Финляндии собирают 99% всех ПЭТ-бутылок для вторсырья. В соседней Литве уже три года работает схема залоговой цены при их возврате. Почему соседи могут собирать пластиковые бутылки, а у нас не получается?!

Я, например, решил заготовить энное количество этой тары, пока она еще есть…

**Владимир КОТЛЯР.**
**Минск.**

ПАЗІЦЫЯ

## Ці патрэбны Беларусі ЕГУ?

Незразумела, каму і навошта патрэбны Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт? Знаходзячыся ў Вільнюсе, ён нібыта працуе на дэмакратычную будучыню Беларусі, там навучаюцца нашы студэнты, будучыя спецыялісты ў палітыцы, педагогіцы, прадпрымальніцкай дзейнасці. Але, калі прыгледзецца больш пільна, праз ЕГУ ідзе вымыванне моладзі за мяжу, яго выпускнікі на радзіму амаль не вяртаюцца. Яны самі называюць ЕГУ трамплінам для скачка ў Еўропу. Атрымліваецца, ад гэтага ўніверсітэта Беларусі больш шкоды, чым карысці.

**Міхась БАРОЎСКІ.**

*г.Іўе.*

МНЕНИЕ

# Школа должна развиваться вместе с обществом



Прочел статью Леонида Борщевского «Школьны ператрус» («Народная Воля» за 5 февраля 2019 г.). Сложилось впечатление, что, на взгляд автора, в системе школьного образования все плохо и ничего хорошего нет. В природе так не бывает; где минус, там есть и плюс. Как говорил сатирик Аркадий Райкин, всякий перечеркнутый минус становится плюсом. Если чиновники от образования заслуживают, чтобы их ругали, это нужно делать, но также будем честными и благодарными им за успехи нашей школы.

Что ни говорите, а немалые изменения происходят в школах нашей страны. Ведется модернизация инженерных сетей, обновляются классы, помещения, фасады зданий, строятся новые современные школы. Многие из них борются за звание «Учреждение образцового качества и порядка».

Так, общее среднее образование должно соответствовать потребностям современной жизни. Меняется среда, в которой мы живем, вырастает новое поколение детей. Они в чем-то другие, чем мы, их родители. Сейчас ребенок, который ходит в младшие классы, лучше бабушек-дедушек владеет компьютером.

Старшее поколение всегда жалуется на младшее, тем не менее современные ученики сердечные и открытые, способные и воодушевленные. Нужно только увидеть их таланты, найти с ними общий язык и раскрыть их потенциал.

Министр сказал, что революционных изменений в системе образования не будет. Всякая революция – это прежде всего разрушение того, что есть. Этого нам действительно не надо. А вот некоторые эволюционные шаги нужно сделать. Один из них – мобилизовать и вернуть мужчину-педагога в школу. Сделать это непросто, но нужно. Многие сетуют, что зарплата не устраивает. Причина веская, но, считаю, не главная. Мужчина может быть успешным, образованным, но стать настоящим учителем дано не каждому. Учителем можно стать, но лучше им, как говорят, родиться. Это самая сложная профессия. Профессия номер один, все остальные профессии от нее производные.

Школа – это живой организм, она все время должна развиваться. Возможно, в скором времени появится необходимость создавать и частные общеобразовательные заведения. На повестке дня стоит и вопрос внесения корректировок в изучение иностранных языков. Начинать нужно с детского сада. Ребенок в таком возрасте легче усваивает иностранную лексику, вернее сказать, другой язык.

В наше время стыдно говорить о том, что плохие учебники, несовершенные программы обучения детей. В стране множество кандидатов наук, докторов, а, видите ли, хороших учебников нет. Здесь очень подходит выражение: пора и власть употребить.

Слов нет, жизнь средней школы волей-неволей затрагивает всех нас и каждого в отдельности. Существует триада: родители–ученики–школа, а посему не только чиновники от образования, а мы все в ответе за то, какой быть школе.

**Валериян ЯНЧУК,**
**пенсионер.**
*г.Новогрудок.*

РУБАМ!

# Дзве дзяржаўныя мовы, а чаму інфармацыя падаецца ў асноўным толькі на адной – рускай?

2018-ы быў Годам малой радзімы.

Гэта актуальная і прыгожая ініцыятыва ўлад прымусіла ўспомніць невялікую вёсачку ў Гродзенскай вобласці. Менавіта яе я лічу сваёй малой радзімай. Вёска тая раскінулася ўдалечыні ад вялікіх дарог і гарадоў, побач з лясным масівам. Тут прайшло маё дзяцінства.

Нялёгкі быў час. Не так даўно скончылася вайна, таму былі пэўныя праблемы: бракавала сшыткаў, падручнікаў, у краме хлеб не заўсёды можна было купіць, і многія вясковыя жанчыны пяклі духмяныя боханы ў печы. Не было электрычнасці. Затое як было весела! Увесь вольны час бавілі на вуліцы. Гулялі, збіралі ягады, вудзілі рыбу. Яшчэ весялейшымі былі зімовыя забавы, балазе зімы былі доўгія і снежныя.

Добра памятаю сваю першую школу. У нашу сямігодку прыходзілі дзеці з усіх навакольных вёсак, у ёй я атрымаў пачатковую адукацыю. Трэба сказаць, што вучыліся мы ў той час – а гэта быў канец 1950-х гадоў – выключна на беларускай мове, гаворка ў паўсядзённым жыцці была таксама беларуская. Рускую мову ніхто не ведаў, і пачуць яе можна было, калі ў апошняй хаце на ўскрайку вёскі круцілі кіно, а гэта «свята» было не часцей за тры-чатыры разы на год. Электрычнасці ў вёсцы не было, не было радыёпрыёмнікаў. Прыходзіла раённая газета, яна была на роднай мове. Чыста беларуская вёска! На жаль, цяжка ўявіць нешта падобнае цяпер, у незалежнай Беларусі.

Праўда, на пачатку 1990-х пасля атрымання суверэнітэту дзяржаўнай мовай была беларуская. Але праўда і тое, што асноўная маса насельніцтва Беларусі не магла карыстацца беларускай мовай у поўным аб’ёме, размаўляць па-беларуску, што і паказаў рэферэндум 1996 года.У выніку – дзве дзяржаўныя мовы: беларуская і руская.

Не сакрэт, што большасць насельніцтва карыстаецца рускай мовай. І наперадзе доўгая карпатлівая праца па папулярызацыі роднай мовы. У першую чаргу гэтым павінны заняцца школа і сродкі масавай інфармацыі. Таму дазвольце запытацца ў вас, шаноўныя тэлежурналісты: вам нехта перашкаджае рыхтаваць перадачы на сваёй мове? У часы БССР быў адзін рэспубліканскі канал, і тэлевізійныя навіны падаваліся па-беларуску. Цяпер у краіне іх некалькі, але беларускай мовы, лічы, нідзе не чуваць. У рэшце рэшт, у нас дзве дзяржаўныя мовы, а інфармацыя падаецца на адной. Глядзіш раніцай, ну, здаецца, самы беларускі канал – «Беларусь 1». Праграма называецца «Добрай раніцы, Беларусь!» – і што? Акрамя прыгожай беларускай назвы, усё ідзе па-руску. Тое самае і на астатніх беларускіх каналах. Гэта здзек! Няўжо вы думаеце, што людзі не хочуць чуць роднай мовы? Што з таго, што яны размаўляюць па-руску? Так склалася гістарычна. Але ж мы ведаем, што, паводле вынікаў апошняга перапісу, ці не 70% насельніцтва Беларусі лічаць роднай мовай менавіта беларускую. Што вам яшчэ трэба? Распараджэнне прэзідэнта? Аляксандр Рыгоравіч, як чалавек сумленны, у моўным пытанні прытрымліваецца нейтралітэту. Разам з тым ён разумее, што без роднай мовы няма нацыі, гэта неаднаразова гучала ў выступленнях кіраўніка дзяржавы.

Праўда, ёсць беларускія радыёстанцыі, якія вяшчаюць на роднай мове, дзякуй ім за гэта! Але хто іх чуе? Радыёкропак даўно няма, а радыёпрыёмнікі маюць адзінкі. А вось тэлевізар глядзяць усе, асабліва людзі старэйшага ўзросту. У сетцы тэлеперадач, якія транслююцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, расійскія і беларускія каналы. Такі вось выбар. І там і там размаўляюць па-руску. І большасць гледачоў выбірае, на жаль, расійскія, яны больш яркія, цікавыя, але і больш небяспечныя. Пасля «Крымнаш», гэта значыць анексіі Крыма Расійскай Федэрацыяй, на расійскім тэлебачанні пачалі з’яўляцца адыёзныя праграмы кшталту «60 минут», «Время покажет», «Место встречи» і г.д. Праграмы, на мой погляд, шавіністычныя, якія ўсхваляюць Расію і прыніжаюць другія краіны, асабліва Украіну, кіраўніцтва якой іначай, як хунта, не называюць. Затое Расія «великая и божественная», нягледзячы на тое, што 20% насельніцтва жыве ніжэй афіцыйнага ўзроўню беднасці.

Бяда ў тым, што асноўная маса беларусаў верыць, што Беларусь без Расіі нічога не прадстаўляе, што мы адзін народ і нам трэба аб’яднацца. У адной з перадач гэтага цыкла ўзгадалі і пра Беларусь, дакладней пра нашага прэзідэнта, якога моцна абразілі так званыя рускія палітолагі. Зразумела, праграму знялі з эфіру. Я лічу, трэба прыкрыць усе гэтыя аналітычныя праграмы альбо адкрыць украінскі канал як альтэрнатыву расійскім (гэта нам абяцаюць ці не трэці год). Альбо ўвесці ў сетку беларускія праграмы, у якіх распавядаць пра гісторыю Беларусі, пра нашых знакамітых людзей з выкарыстаннем як беларускай, так і рускай мовы, калі ў нас двухмоўе.

А як жа мая родная вёсачка, мая малая радзіма, запытаецеся вы. А ніяк, яе няма, адышла ў нябыт, як і шмат іншых невялікіх вёсак Беларусі. Засталіся пустыя будынкі і… памяць. Паступова, пакрысе жыхары пераехалі ў гарады. Там жыць лягчэй і грошай больш. Дарэчы, масавая міграцыя таксама спрыяла заняпаду роднай мовы. Гарадскія і гавораць «па-гарадскому», то бок па-руску. А вось малая радзіма маёй жонкі, якая стала і маёй за амаль сорак гадоў сумеснага жыцця, яшчэ жыве. Жыхары ў асноўным сталага веку, але яны ёсць. Вёска на беразе Нёмана, таксама ў Гродзенскай вобласці. Я наведваю гэты прыгожы куток Беларусі амаль сорак гадоў і раблю несуцяшальныя высновы. У кожнай хаце ёсць тэлевізар. І ўсе без выключэння сядзяць, утаропіўшыся ў гэту «скрыню», і глядзяць усё запар: серыялы, перадачы, навіны – і ўсё па-руску. Нават паўсядзённая мова змянілася, усё больш рускіх слоў сустракаецца. Адна старая жанчына дык прама заявіла: маўляў, мы тут «все пачці рускія«. Як кажуць, прыехалі.

Можаце не сумнявацца: калі з’явяцца «зялёныя чалавечкі» і правядуць рэферэндум, ёсць усе перадумовы, што вынікі яго не будуць істотна адрозніваецца ад вынікаў на тэрыторыі усходняй Украіны. Ну, у заходняй частцы краіны гэта практычна немагчыма, затое без праблем можна атрымаць, напрыклад, Віцебскую Народную Рэспубліку. І гэта не жарт.

Мне сітуацыя бачыцца вельмі сур’ёзнай. Усе мы ў адказе за будучае нашай краіны, за яе незалежнасць. І вельмі важная ў гэтым роля журналістаў. Зрабіце ўсё магчымае, каб людзі глядзелі беларускамоўнае Беларускае тэлебачанне. **Каб ім хацелася беларусамі звацца і спраўдзіць упэўненасць** Ніла Гілевіча: «І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!»

**Вяслаў ЯРМАК.**
**г.Ліда.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 ЛЮТАГА 2019 г.

ІНІЦЫЯТЫЎНЫЯ ЛЮДЗІ

# Цырульніца

Прадпрымальніца Надзея Кірдзяшкіна за працай у цырульні.

## З дапамогай дзяржавы

Надзея Кірдзяшкіна з Гродна ў свае 50 гадоў адкрыла прыватную цырульню. Да гэтага яна ўжо мела досвед прадпрымальніка.

Спадарыня Надзея ўпэўнена: ёй шмат у чым пашанцавала пры адкрыцці сваёй справы. У падатковай інспекцыі трапіла да зычлівай супрацоўніцы, якая падказала, што можна атрымаць субсідыю ад дзяржавы: калі выконваеш умовы, на якіх яна даецца, то грошы не трэба будзе вяртаць.

Давялося схадзіць на заняткі, скласці бізнес-план, падрыхтаваць неабходныя дакументы. На гэта пайшло некалькі месяцаў, але спадарыня Надзея кажа, што, у прынцыпе, гэта яе не напружыла. «*Субсідыя склала больш за дзве тысячы рублёў. Я набыла некаторае абсталяванне для цырульні, праўда, давялося ўзяць яшчэ крэдыт на такую ж суму, каб можна было пачаць працу*».

Пашанцавала яшчэ і ў тым, што ўдалося знайсці памяшканне, якое належыць камунальнай гаспадарцы. Арэндная плата значна ніжэйшая, чым у прыватнікаў. Рамонту памяшканне патрабавала нязначнага, паколькі перад гэтым там знаходзіўся стаматалагічны кабінет.

«*Праўда, мушу сказаць, што набыла ўсё самае сціплае, паколькі адна толькі мойка каштуе каля 700 рублёў, адмысловае крэсла для дарослага чалавека – каля 200 рублёў, а іх патрэбна некалькі. Дзіцячае крэсла – 180 рублёў*», – пералічвае Надзея.

## З 9.00 да 21.00

Атрымліваючы ад дзяржавы субсідыю і беручы крэдыт, спадарыня Надзея адразу рыхтавалася да таго, што працаваць давядзецца вельмі шмат. Дапамагае яшчэ і тое, што дачка ўжо дарослая і няма неабходнасці кагосьці апекаваць.

«*На працы я з 9.00 раніцы, адыходжу пасля 21.00, дома, можна сказаць, толькі сплю. Да таго ж працую кожны дзень, лічы, без выхадных. У мяне няма іншага выйсця, бо трэба вярнуць крэдыт, аплаціць падаткі, арэнду памяшкання, камунальныя паслугі*».

Расходы складаюць прыкладна 600 рублёў у месяц, да гэтага дадаецца выплата па крэдыце. А трэба яшчэ зарабіць на тое, каб набыць неабходныя матэрыялы для працы, урэшце трэба харчавацца, апранацца, заплаціць за праезд...

Пакуль што ўзяць на працу наёмных работнікаў гаспадыня цырульні не можа, хаця, канешне, аб гэтым думае: каб «раскруціць брэнд», трэба больш кліентаў. Кошты ў яе цырульні самыя нізкія ў раёне: мужчынская стрыжка – 5 рублёў, жаночая – ад 8 рублёў і вышэй. Зараз за дзень яна абслугоўвае 5–10 кліентаў, у выхадныя бывае і болей. Надзея спадзяецца, што з часам іх колькасць павялічыцца. Як доўга працягнецца праца ў такім рэжыме, яна дакладна не ведае.

«*Магчыма, так будзе паўгода, а можа, год – час пакажа,* – разважае спадарыня Надзея. – *Справа ў тым, што ў мяне яшчэ тая загартоўка, я вытрываю, звыклася ўжо на ўсім эканоміць. Але, магчыма, час зменіцца – і маё становішча таксама. Я ў сваёй справе прафесіянал і ўжо заўважаю, што кліенты гэта адчулі*».

## «Маладым такое не пад сілу»

Наша размова з прадпрымальніцай зайшла пра тое, чаму маладыя людзі ў Беларусі не спяшаюцца браць субсідыі на адкрыццё сваёй справы, а імкнуцца з'ехаць на заробкі за мяжу.

Надзея Кірдзяшкіна лічыць, што іх выбар натуральны, паколькі яны хочуць жыць і зарабляць сёння, а не чакаць, калі гэта можа здарыцца праз пэўны час. Яна нікога не асуджае, але сама нікуды не збіраецца з'язджаць.

Паводле меркавання спадарыні Надзеі, каб малы бізнес хутчэй развіваўся і не выглядаў такім небяспечным, патрэбна дадатковая дапамога з боку дзяржавы.

## Зрабіць, як у цывілізаваных краінах

Індывідуальны прадпрымальнік з больш як дваццацігадовым досведам Андрэй Шасцеракоў, разважаючы аб зменах у заканадаўстве, якія тычацца вядзення бізнесу, лічыць, што, з аднаго боку, яны відавочныя. З другога – для таго каб бізнес у краіне развіваўся больш імкліва, каб ім не баяліся займацца маладыя людзі, якія не маюць першапачатковага капіталу, а могуць разлічваць толькі на субсідыю ад дзяржавы, змены ў заканадаўстве павінны быць больш радыкальныя.

«*У цяперашнім заканадаўстве адзінай значнай ільготай з'яўляецца тое, што на пачатку сваёй дзейнасці індывідуальнаму прадпрымальніку даецца трохмесячная адтэрміноўка па падатках,* – канстатуе Шасцеракоў. – *Але ж гэта толькі адтэрміноўка*».

Паводле яго слоў, у цывілізаваных краінах, нават у суседніх з намі, індывідуальных прадпрымальнікаў, якія толькі ўзяліся за сваю справу, пазбаўляюць ад выплаты падатку на 3–5 гадоў. Для таго каб яны маглі стаць на ногі і ў будучым зрабіцца надзейнымі падаткаплацельшчыкамі сваёй краіны.

«*Перш чым атрымаць аддачу ад малога бізнесу, трэба яму спачатку сур'ёзна дапамагчы*», – лічыць Андрэй. – *Наколькі я ведаю, ні ў адной краіне свету прадпрымальнік не плаціць адзіны падатак раней, чым пачынае сваю дзейнасць, а ў Беларусі спачатку заплаці, а потым працуй. І заробіш ты ці нічога не заробіш – гэта нікога не турбуе. Галоўнае – заплаці*».

Менавіта такое стаўленне да прадпрымальніцтва, лічыць Андрэй Шасцеракоў, і прыводзіць да таго, што многія здольныя і таленавітыя людзі вымушаны з'язджаць з Беларусі, зарабляць на жыццё і плаціць падаткі ў іншых краінах.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДАЛЁКАЕ–БЛІЗКАЕ

# На мяжы…

*На працягу міжваеннага дваццацігоддзя польска-савецкая граніца была месцам, дзе Савецкі Саюз імкнуўся паказаць свае перавагі перад капіталістычным светам. Пра тое, як гэта адбывалася, пойдзе гутарка ў сённяшнім артыкуле.*

Савецкія памежнікі на польска-савецкай мяжы.

## Зачыстка

У першай палове 1930-х гадоў з населеных пунктаў, якія знаходзіліся побач з лініяй савецка-польскай мяжы, пачалі высяляць «нядобранадзейных элементаў», у склад якіх былі залічаны «кулакі», «ворагі народа» і антысаветчыкі, дзеячы рэлігійных культаў і г.д.

«*У нас было 20 дзесяцін, а ў 1930 годзе нас раскулачылі, забралі ўсю скаціну і пакінулі 2 гектары. Наклалі падатак. Бацька не мог выплаціць і пайшоў з маім братам працаваць – будаваць дарогу. У чэрвені 1933 года нашу сям'ю выслалі памежнікі Заслаўскага памежатрада. Потым нас павезлі ў Кемераўскую вобласць*», – узгадваў былы жыхар вёскі Лапаровічы **Станіслаў Павіч.**

«*З Лагойскага раёна першая партыя раскулачаных была выслана ў сакавіку 1930-га, а другая – у кастрычніку. У нашым сельсавеце выслалі ў сакавіку Сянкевічаў, Куньскіх, Вайцахоўскіх, Рабчуноў. Увосень – двух Багдановічаў. Але ж і ў Польшчу нашыя беглі. З Калачоў два браты сышлі. З Панядзелькаўшчыны ўся сям'я Міркоўскіх збегла. Усяго ў вёсцы арыштавалі 6 чалавек. 13 снежня 1937 года мяне арыштавалі і павезлі… Далі 5 гадоў*», – апісваў тыя жудасныя падзеі жыхар Лагойшчыны **Уладзімір Валовік.**

На пачатку 1930-х гадоў памежны рэжым яшчэ больш узмацніў. Уводзілася абмежавальная сістэма правіл, мерапрыемстваў і норм, якія рэгулявалі парадак уезду, пражывання і працы ў памежных зонах. Уезд у памежзону быў забаронены ўсім, акрамя сталых жыхароў.

«*У нас была гаспадарка ў 16 гектараў. Сям'я: бацька, маці, я, брат і тры сястры. У 1929 годзе хутар вымушаны былі прадаць. А ў лютым 1930-га бацьку арыштавалі і павезлі ў памежны атрад у Заслаўе. Потым расстралялі. У сакавіку і нас выслалі. Паехалі мы ў Перм*», – узгадваў жыхар аднаго з хутароў ля мястэчка Сёмкаў Гарадок.

Прынцып «кожны савецкі чалавек ахоўвае мяжу» актыўна ўкараняўся ў свядомасць жыхароў савецка-польскага памежжа пад Мінскам. Бальшавіцкая прапаганда адзначала, што кожны, хто пераходзіць мяжу, з'яўляецца агентам капіталістычных выведак. Жыхарка вёскі Паўлюць на Койданаўшчыне **Лідзія Варакса** ў 1936 годзе затрымала двух парушальнікаў, за што ў Мінску яе ўзнагародзілі Ганаровай граматай, медалём і швейнай машынкай «Зінгер».

Калгаснікі звярталі ўвагу на «чужых» і адразу беглі на заставу, каб папярэдзіць «зялёныя фуражкі» аб падазронай асобе. «*Мой бацька «шпіёна» злавіў. Мусіць, у 1938 годзе разам з маці ён пайшоў у лес у ягады, а там мужык нейкі, не мясцовы. Яны да яго падышлі, запыталіся. А ён замест слова «рэзіна» кажа слова «гума». А тут жа ўжо русіфікацыя была. Ну вось і выклікалі памежнікаў, і мужыка гэтага схапілі. Потым афіцэры памежных войскаў з Мінска прыехалі, выказалі падзяку за пільнасць. Узнагародзілі бацьку і маю бабулю кашулямі і запрасілі на абед у сталічны рэстаран. Казалі, што мацёрага дыверсанта дапамаглі злавіць. А які там дыверсант… Бацька казаў, што звычайны «заходнік» быў, які ішоў да сваякоў у БССР. Але часы былі такія. А яшчэ тата смяяўся, калі ягоную маці памежнікі запрасілі на канцэрт, тая ім сказала: «Ды не, хлопцы, хопіць нам абеду, навошта нам вашыя кансервы*», – адзначаў жыхар Вялікага Сяла **Пётр Дударчык** (да вайны вёска была на баку БССР).

## Канцэрты для «палякаў» і трактары са Сталінграда

У населеных пунктах, якія знаходзіліся на самым кардоне, ствараліся калгасы. Так, у Чыравічах (побач з Радашковічамі), быў створаны калгас імя АДПУ, у Шаршунах – імя Чырвонай Арміі, у Ліпенях – імя Герояў Працы, у Вензелева – імя Кагановіча, у Векшыцах і Даўжанах – калгас «Чырвоная мяжа», у Меткава і Грынёўшчыне – «Новы будаўнік», у Вялікай Бараздыні – «Чырвоны баец», у Вялікім Сяле – «Чырвоны партызан» і г.д.

Жыхары ўзгаданых населеных пунктаў павінны былі паказваць, што ў БССР жывуць лепей, чым за кардонам, у «праклятых паноў». Дзеля гэтага на мяжы арганізоўваліся «паказальныя выступленні».

«Дзед узгадваў, як падчас сельскагаспадарчых работ у полі з савецкага боку пад'язджаў грузавік, на якім стаялі мегафоны. Потым з'яўляліся добра апранутыя людзі, члены агітбрыгады, якія пачыналі спяваць савецкія песні. «*Мы аром зямлю, а яны спяваюць, – казаў стары. – Тады ж не разумелі, што гэта прапаганда*», – адзначаў жыхар вёскі Сачыўкі **Сямён Красоўскі** (да вайны населены пункт быў на польскім баку).

«*Аднойчы нам у вёску прывезлі трактар са Сталінграда. Адзін з першых тут. Дык памежнікі дазволілі трактарысту араць зямлю ля самай дзяржаўнай мяжы. А той, відаць, слаба разбіраўся ў той машыне. Вазьмі ды націсні на газ. Трактар той збіў польскі памежны слуп і паехаў у Польшчу. Потым тут памежныя камісіі, польская і савецкая, сустракаліся, абмяркоўвалі вяртанне трактара на Радзіму*», – адзначаў адзін з жыхароў вёскі Меткава (была на баку БССР).

Можна сабе ўявіць рэакцыю польскіх памежнікаў, калі на іх вачах адбыўся такі «трактарны прарыў». Увогуле савецкі бок імкнуўся часцей выкарыстоўваць сельскагаспадарчую тэхніку, каб прадэманстраваць жыхарам Другой Рэчы Паспалітай поспехі індустрыялізацыі ў СССР. «*Нашы на трактарах ездзяць, дык заходнікі да мяжы падыходзілі і глядзелі, што ў Савецкім Саюзе робіцца. Там жа толькі коньмі зямлю апрацоўвалі, а тут ужо трактары пусцілі. А на мяжу давалі самыя новыя трактары, каб палякі бачылі, як тут, у Саюзе, жывецца*», – узгадвала жыхарка вёскі Глінное Докшыцкага раёна.

Вось як савецкую прапаганду прадстаўляла адна з даваенных польскіх газет: «*З Івянца да першай стражніцы каля 14 кіламетраў. Пры дзённым святле едзем праз тыповую Віленшчыну. [...] У вёсцы Жыдовічы затрымліваемся перад пагоркам, на якім КАП будуе агульнаадукацыйную школу і народны дом для мясцовага насельніцтва. Войска тут і архітэктар і выконваюць значную частку працы. [...] Калі б не калючы дрот, які бачны перад сцяной маладога лесу, і калі б не памежныя слупы, пастаўленыя парамі адзін супраць другога, мы б не ведалі, што знаходзімся на самай лініі мяжы. Глядзім у той, супрацьлеглы, бок, дзе пачынаецца Краіна Саветаў. Нічога не бачна. Цішыня. Толькі стая птушак пралятае на той бок «без пашпартоў». Бальшавікі не любяць, каб за імі назіралі. Напэўна, вочы іх памежных патрулёў зараз свідруюць нас з засады. Такая ў іх звычка. Ёсць нешта сімвалічнае ў іх і нашых паводзінах на мяжы. Мы нічога не хаваем. Яны – наадварот. Жадаюць, каб «заходняе вока» як мага менш убачыла, што ў іх робіцца. Наш КАП будуе на мяжы дарогі, школы, народныя дамы, рэстараны ці касцёлы. Яны?.. Праз бінокль бачым удалечыні невялікі населены пункт, які калісьці быў поўны жыцця. Сёння там пуста. Памежных «кулакоў» выселілі ўглыб СССР. Саветы добра характарызуе дзіўная працэдура, якую праводзяць, безумоўна, у мэтах прапаганды. Яны не аруць днём. Але калі ўвечары на польскім баку жыццё пасля працоўнага дня пераходзіць у рэчышча адпачынку, яны пачынаюць працаваць. Спецыяльна на адкрытых мясцінах, каб з нашага боку яны былі бачны. У свеце пражэктараў пачынаюць грымыхаць трактары, туды-сюды бегаюць цені калгаснікаў, што ходзяць за механічнымі плугамі, гучаць каманды. Гэта павінна з'яўляцца доказам для «пралетарыяту на польскім баку мяжы», што ў Саветах столькі працы, што нават дня не хопіць. Аднак не ўлічвае прапаганда таго факту, што «радасная савецкая праца» адбываецца пад пільным кантролем памежных атрадаў камісарыяту ўнутраных спраў*».

Трэба адзначыць, што савецкім сялянам падчас сельскагаспадарчых работ не дазвалялася размаўляць з суседзямі «за кардонам», да якіх было рукой падаць. «*Сена прыбіралі. Ужо калгас быў, дык на мяжу моладзь пасылалі. І мне прыйшлося туды ісці. «Палякі» на тым баку ходзяць і размаўляюць, у нас пытаюцца. А нам нельга размаўляць. Мы маўчалі. Толькі слова скажы, так быццам з неба зваліцца памежнік наш. А так іх не бачна было*», – узгадвала жыхарка Койданаўшчыны **Таццяна Нікіфарава**.

«*Палякі-памежнікі давалі бінокль, каб мы, можа, сваіх у той, савецкай, вёсцы ўбачылі. «Niech Pani z Sowietami porozmawia», – казалі. Дык гляджу, бачу сваіх, крычу: «Каця, адгукніся!» А на тым баку не рэагуюць, быццам і няма мяне. Як толькі нехта галаву падыме, адразу памежнік іх рускі прыбягае і гоніць назад у вёску*», – узгадвала тыя няпростыя часы адна з жыхарак Валожыншчыны.

## «Не тых чакалі»

І ўсё ж значная частка насельніцтва Заходняй Беларусі верыла, што ў БССР ёсць перспектывы для іх у плане адукацыі і працы. «*У аднаго з нашых аднавяскоўцаў у Амерыцы сваяк памёр, дык перад смерцю яму грошы выслаў. А той купіў радыёпрыёмнік з навушнікамі. Мы збяромся ў яго і слухаем: "Гаворыць Мінск! Дарагія таварышы…" Песні, танцы, райскае жыццё. Расказваюць, што адукацыя бясплатная і працу кожны можа знайсці. Ды і па-беларуску ж гаварылі ў тых перадачах. Нашыя хлопцы збіраліся і беглі туды, у Савецкую Беларусь. У Радашковічах быў чалавек, што за злотыя пераводзіў праз мяжу. А аднойчы польскія памежнікі злавілі перабежчыка, маладога хлопца з БССР. Пакармілі яго і пачалі дапытваць. А той стаў расказваць, што, маўляў, жывецца там вельмі кепска, што хлеб белы еў толькі раз у жыцці, і то на Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Зразумела, палякі гэтага перабежчыка выкарыстала, каб ён нам праўду пра жыццё ў Саветах распавёў, а мы яго засмяялі, прастытуткай назвалі, палічылі правакатарам. Не ведалі ж праўды. Во як прапаганда маскоўская дзейнічала*», – узгадваў у размове з аўтарам адзін з жыхароў Маладзечанскага раёна.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што за амаль дваццаць міжваенных гадоў Другая Рэч Паспалітая так і не стала маці для мільёнаў беларусаў, якія жылі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў польскай дзяржавы. «*Што казаць, чакалі мы Чырвоную Армію, як Бога. Тут жа было так: дома па-беларуску, а ў школе па-польску. А як слова сказаў па-свойму, дык лінейкай па руках. Шпіталя не было, з працай было кепска. Вось і чакалі савецкую ўладу*», – падкрэсліваў адзін з жыхароў Валожынскага раёна.

Аднак рэчаіснасць, якую прынесла Чырвоная Армія ў Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года, моцна адрознівалася ад той прыгожай, плакатнай, пра якую спявалі агітбрыгады і пра якую казала радыё з Мінска. «*Як Чырвоная Армія да нас прыйшла, то тут песню такую спявалі: «Jeśli Polska nie zgineła, to zginąć musi, jeśli Niemiec nie zabierze, to bolszewik wdusi». Так гімн польскі перарабілі. А як маці ўбачыла гэтых чырвонаармейцаў у абмотках, на гэтых конях-манголах, у будзёнаўках, то толькі і сказала: «Эх, не тых чакалі, не тых*», – падкрэсліваў сведка эпохі з Маладзечна. Такой была яшчэ адна старонка жыцця нашых суайчыннікаў на «мяжы цывілізацый».

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

РЭГІЁН

# Ужо восенню ў Лідзе з'явіцца помнік Гедзіміну

*Помнік заснавальніку Ліды з'явіцца ў вобразе вершніка на кані і будзе ўстаноўлены побач з паўночнай сцяной Лідскага замка.*

Ідэя ўсталявання помніка заснавальніку Ліды ўзнікла некалькі гадоў таму, у 2017 годзе быў аб'яўлены конкурс на стварэнне эскіза. У ім бралі ўдзел 28 работ. Скульптары Вольга Нячай і Сяргей Аганаў сталі пераможцамі конкурсу. Дарэчы, Сяргей Аганаў, які зараз працуе ў Мінску, сам паходзіць з Ліды.

Паводле слоў Аганава, помнік вялікаму князю будзе цалкам адпавядаць гістарычнай праўдзе. З яго слоў, вобраз абралі зусім не дынамічны, а спакойны. Вялікі князь Гедзімін папросту сядзіць на кані, у яго доўгі плашч, які нібы пакрывае ўсё Вялікае Княства, якое знаходзіцца пад ягонай аховай.

«Гэта помнік найперш сапраўднаму дзяржаўнаму дзеячу, які шмат зрабіў для сваёй дзяржавы», – заўважае скульптар Аганаў.

Устанавіць помнік заснавальніку Ліды плануюць яшчэ ў жніўні, а адкрыццё мае адбыцца ў верасні падчас святкавання Дня горада. Падзея прысвечана 75-годдзю ўтварэння Гродзенскай вобласці.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Так выглядае помнік вялікаму князю Гедзіміну ў Лідзе.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



## Иван КОНОРАЗОВ: «Волшебной пилюли у нас нет…»

*Можно ли излечиться от алкоголизма? Что нужно для того, чтобы отказаться от спиртного?*

*Корреспондент «Народной Воли» побывал в столичном медицинском центре, где лечат алкогольную зависимость.*

Медицинскому центру «Парацельс» уже более 25 лет. В прошлом году он начал позиционировать себя как «Центр лечения зависимостей», здесь можно получить помощь по любому виду зависимостей начиная от алкогольной, никотиновой и заканчивая шопоголизмом и злоупотреблением электронными сигаретами…

– К каждому клиенту у нас индивидуальный подход, – рассказывает мне заместитель директора по медицинской части центра **Иван КОНОРАЗОВ**. – И, если говорить о тех, у кого проблемы с алкоголем, то подход пошаговый. На первом этапе – выведение из запоя. Уже после этого предлагаем медикаментозные формы лечения, поддержания трезвости – подшивание лекарственных средств, которое формирует у человека уверенность, что он не будет употреблять алкоголь какой-то период времени.

Этот период дается клиенту для того, чтобы он осмыслил свои проблемы и начал работать в рамках не только медикаментозного лечения, но и психотерапевтического. Потому что синдром зависимости от алкоголя – это болезнь не только тела, но и духа. Вышел человек из запоя – объясняем, что и как ему необходимо делать дальше. И он делает свой выбор. Мы максимально используем принципы мотивационной наркологии в тесной связке с психотерапией уже на начальных этапах оказания помощи клиентам.

**– Какое лечение вы предлагаете?**

– Кодировка, внутривенное и внутримышечное подшивание, индивидуальная психотерапия, работа с родственниками зависимых… У нас есть эксклюзивные вещи, которые в рамках синтеза нескольких методик психотерапии делают только специалисты нашего центра. Курс называется «Снятие тяги к алкоголю». То есть у человека после прохождения такого курса не возникает желания употреблять алкоголь. Наши психотерапевты меняют его мышление и стереотипы.

Если к нам приходит клиент и просит не только вывести его из запоя, но и что-то большее, то мы ему в этом помогаем. Ведь что такое выход из запоя? Облегчение состояния человека в данный момент. Вот руки у него уже не трясутся, и он счастлив. Но сама-то проблема зависимости никуда не исчезла! И при определенных условиях этот человек снова начинает пить. Поэтому после наркологической помощи мы всегда рекомендуем еще и курс восстановления тела, а также обязательно психотерапевтическую помощь.

**– Среди обывателей бытует такое мнение: человек пришел в центр, заплатил деньги, ему сделали укол или дали таблетку, и пить он больше никогда не будет. Это заблуждение?**

– Все будет зависеть от того, насколько человек желает не пить. Врачи-наркологи не ходят круглые сутки за клиентами и не напоминают им о том, что этанол – это яд. Мы работаем в партнерстве с теми, кому оказываем помощь.

Мы рассказываем о том, что такое хронический алкоголизм. О том, как этанол действует на организм. Честно говорим, что это хроническое заболевание. И предупреждаем, что при подшивке в организм будет введено лекарство. Таблетки вшиваются под кожу, и лекарство будет там находиться в определенной концентрации примерно около года. При употреблении алкоголя человеку будет очень плохо – вплоть до летального исхода. Совершеннолетний пациент отвечает за свои поступки, к тому же мы берем соответствующую расписку.

Но некоторые и на самом деле думают: «Если я сюда пришел и заплатил деньги, то доктор меня обязательно вылечит». Не вылечит, если этого не захочет в первую очередь пациент. Вклад врача в лечение от алкоголизма – максимум 30–35 процентов.

**– Когда я покупаю, скажем, в магазине бытовой техники микроволновую печь, то получаю гарантийный талон на товар. Какие гарантии дают клиентам в вашем центре?**

– В первую очередь мы гарантируем качество оказания медицинской помощи, потому что у нас работают врачи и специалисты самого высокого класса. Но давайте рассмотрим классический случай. Человек закодировался на год, но уже через пять месяцев снова запил. Такое бывает, потому что каждый человек индивидуален. Кто-то от ста граммов водки пьянеет, а кто-то может и два литра выпить за сутки. Человеческий организм индивидуален настолько, что во всем мире не найти точно такой же. Например, народы Севера вообще не переносят этанол, и у этих людей очень быстро развивается алкоголизм.

Но, повторюсь, если клиент будет выполнять наши рекомендации, то мы даем гарантию качественного лечения. Если у человека, который прошел курс, появляется желание выпить, то лучше к нам повторно обратиться в самые кратчайшие сроки. Мы обо всех этих рисках предупреждаем заранее.

**– Можете описать вашего потенциального клиента с зависимостью от алкоголя?**

– В основном обращаются за помощью в избавлении от алкогольной зависимости люди среднего возраста – от 30 до 50 лет. Есть и старше, и моложе, но, например, с несовершеннолетними работаем только с письменного согласия законного представителя.

И, надо отметить, что в Беларуси мужчины больше подвержены такой зависимости. Это обусловлено и нашим менталитетом, и различными социальными факторами. Развод, ссоры в семье, неудачи на работе… Люди хотят утопить горе в спиртном, они думают, что при этом получат спокойствие. Это большое заблуждение!

**– А вот последний кто обращался?**

– Мужчина, который уже полтора месяца находится в запое. При этом в сутки он выпивал по два литра крепкого алкоголя!

А вообще, к нам приходят люди с разным социальным статусом. Кого-то привезли родственники, потому что уже устали, что их сын-грузчик постоянно пьет и не выходит на работу. Есть и состоятельные клиенты, которые имеют в придачу к яхтам и самолетам еще и алкогольную зависимость. И грузчика, и богатого бизнесмена объединяет одна проблема.

Кстати, обращаются не только граждане Беларуси. Приезжают как из ближнего, так и дальнего зарубежья, среди них – и постоянные клиенты, которым мы помогает поддерживать трезвость. Не так давно лечили пациентов из Вильнюса, Сан-Франциско и Москвы. Некоторых устраивают цены, кто-то приехал по рекомендации знакомых…

**– Можете сказать, на какое время года приходится пик обращений к вам?**

– Достаточно посмотреть в официальных источниках динамику реализации алкогольных и слабоалкогольных напитков на внутреннем рынке, чтобы понять, на какой период приходится пик такой загруженности.

Так что на сегодня работы хватает. И я хотел бы напомнить людям, у кого есть желание избавиться от алкогольной зависимости, что нет волшебной пилюли, которую ты сегодня дал человеку, а завтра он уже здоров. Это не банальная ангина, которая лечится антибиотиками. К алкоголизму человек идет несколько лет, а поэтому должен понимать, что не меньший путь ему придется пройти и в обратном направлении. И идти нужно постепенно. Шаг за шагом. Вот тогда будет устойчивый положительный результат.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ШАШКІ

### Справаздачная конферэнцыя

2 лютага ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па шашках і шахматах прайшла справаздачная канферэнцыя Беларускай федэрацыі шашак. На пасаду старшыні БФШ быў абраны **Віталь Аніська**. Ён добра вядомы ў шашачным руху на міжнародным узроўні як суддзя, трэнер і арганізатар спаборніцтваў. Пажадаем новаму старшыні поспехаў! Адзначым, што адным з наменікаў старшыні быў абраны наш актыўны чытач **Віталь Варушыла**.

### Бліц-конкурс

У якасці заданняў новага бліц-конкурсу прапануем заданні беларускіх аўтараў.

***Віталь Варушыла***

№1 **Белыя**: b2, c1, d2, d6, e3, g3, h4 (7).
**Чорныя**: a3, a5, b4, b8, c5, f6, h6 (7).
№2 **Белыя**: шашкі b4, c5, d2, e5, f4, дамка c1 (6).
**Чорныя**: a3, f6, g7, h2, h6 (5).

***Віктар Шульга***

№3 **Белыя**: d2, e1, f2, g5, h4 (5).
**Чорныя**: d4, e5, e7, h2 (4).
№4 **Белыя**: a1, d4, e1, e5, f4, h2 (6).
**Чорныя**: a5, c7, d6, g3, g7, h4 (6).
№5 **Белыя**: b2, c1, c5, d2, d4, e1, f2, f4, g3 (9).
**Чорныя**: a3, a7, b4, b6, c7, d6, e7, g5, g7, h6 (10).
Знайдзіце выйгрыш белых.

### З архіваў майстра

3 снежня 2018 года пайшоў з жыцця майстар спорту СССР і першы чэмпіён Беларусі па шашачнай кампазіцыі **Мікалай Грушэўскі**. Мікалай Мікалаевіч шмат гадоў сябраваў з «Народнай Воляй», быў вядучым рубрыкі «Шашкі». Удава маэстра Алла Аляксандраўна дазволіла азнаёміцца з яго архівам. Упэўнены, нашым чытачам будзе цікава ведаць, якую творчую спадчыну пакінуў пасля сябе таленавіты шахматны кампазітар.



№6 **Белыя**: шашкі g5, h6, дамка b8 (3).
**Чорныя**: шашкі d8, e5, e7, f8, дамка d6 (5).
f6(g7**A**), h8(c7), d4(cd6), e3(e5), c1(d4), b2(e3), f6, d2 x **A**(g5), f4, h2 x.
№7 **Белыя**: a5, b4, c7, f2, g7 (5).
**Чорныя**: b6, d4, d8, f8, h2 (5).
g3, c5, g5, b8(e3), c7, a7 x.
№8 **Белыя**: a3, b6, c1, c7, d6, e1, h2 (7).
**Чорныя**: a7, d8, f2, f4, f6, g3, g5, g7 (8).
cd2, b4, c5, e3, e5, g1 x.

### Бразільская версія

Міжнародны майстар **Віталь Варушыла** прапануе кампазіцыі ў бразільскія шашкі. Нагадаем, што ў бразільскія шашкі гульня вядзецца на 64-клетачнай дошцы па правілах міжнародных шашак.

№9 **Белыя**: b2, c1, d4, e3, f2, h2 (6).
**Чорныя**: a3, b6, c3, c5, d6, g5, g7 (7).
d2, f8, h6, c1, a5 x.
№10 **Белыя**: b2, c3, d2, d4, e3, f2, h2 (7).
**Чорныя**: a3, a5, b6, c5, d6, g5, g7 (7).
b4, f8, h6, c1, a5 x.

### Творы з-за мяжы

Прапануем нашым чытачам творы замежных аўтараў на 100-клетачнай дошцы.

***Генадзь Андрэеў*** (Латвія)

№11 **Белыя**: 29, 34, 35, 37, 41, 42, 43 (7).
**Чорныя**: 7, 9, 19, 26, 28, 32, 36 (7).
31, 4, 15, 15:38:2(32), 24(37), 47 x.

***Валерый Кручкоў*** (г. Кагарлык, Украіна)

№12 **Белыя**: 17, 18, 29, 37, 41, 47 (6).
**Чорныя**: 10, 20, 23, 28, 32, 36, 38 (7).
42, 24, 4, 26 x.
№13 **Белыя**: 27, 28, 31, 32, 33, 37, 44 (7).
**Чорныя**: 8, 16, 17, 19, 21, 23, 36, 39 (8).
27-22, 2, 11, 46 x.



№14 **Белыя**: 11, 13, 14, 18, 19, 24, 34 (7).
**Чорныя**: 2, 7, 16, 21, 28, 31, 40, 44, 45 (9).
8, 12, 1, 50 x.
№15 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: 6, 7, 11, 12, 18, 19, 39, 41, 42, 43 (10).
**Чорныя**: 1, 2, 10, 16, 21, 28, 29, 32, 35, 36 (10).
43-38, 8, 1, 1-7, 2, 26 x.

### Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 2 кастрычніка 2018 года.

№1 – g7(h8:f6), e3(b2), c3, g3, e3 x.
№2 – b4, e7, c3, b4, d8, g3, e7, h4 x.
№3 – f2, d2, c7, e3, b2, c5, c3, e7, c5(f4), f2 x.

Пераможца гэтага бліц-конкурсу – ***Уладзімір Валчкоў*** (Маладзечна). Ён атрымае прыз – шашачную кнігу.

Далей рашэнні пазіцый па-за конкурсам.

№4 – 10, 13, 43, 3(27**A**), 25, 15 x **A**(14), 47, 24 x.
№5 – 7, 20, 14, 43 x.
№6 – 15, 4, 39-34, 3, 33(49), 17, 17, 7 x.
№7 – 7, 23, 6-1, 5 x.
№8 – 4, 14-9, 3, 8, 47 x.
№9 – 34, 5, 44!, 6(45), 1 x.
№10 – 41, 1, 16, 47, 41, 37 x.
№11 – 23, 3, 43!!, 21, 5 x.

Дакладныя адказы даслалі: ***Аляксандра Камінская*** (Вілейка), ***Юрый Голікаў*** (Цвер, Расія), ***Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі*** (Мінск), ***Аляксандр Шурпін*** (Клімавічы), ***Уладзімір Бандарык*** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), ***Мікалай Зайцаў*** (Баранавічы), ***Рыгор Краўцоў*** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), ***Уладзімір Валчкоў*** (Маладзечна), ***Леанід Жыхар, Фёдар Карпей*** (Мядзел), ***Ігар Ананіч*** (Гродна), ***Уладзімір Панько*** (Камянец), ***Ігар Гулік*** (Мар'іна Горка). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»***
або на электронны адрас:
***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА,
міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ОФИЦИАЛЬНО

## «На сувениры всегда повышенный спрос»

*Начальник управления по маркетингу, коммерческим вопросам и рекламе фонда «Дирекция II Европейских игр 2019 года» Максим КОШКАЛДА рассказал о подготовке к соревнованиям.*

### О билетах

– На соревнования уже продано около 21 тысячи билетов болельщикам из 28 стран мира. Общее количество посадочных мест на трибунах во время Игр – 381 тысяча, хотя возможно увеличение до 535 тысяч.

В целом запланированы продажи билетов на 120 спортивных сессий, включая церемонии открытия и закрытия. А самым насыщенным соревновательным днем станет 25 июня, когда состоятся 18 сессий.



Самыми популярными видами спорта, на которые реализуются билеты, являются легкая атлетика, художественная гимнастика, акробатика, пляжный футбол и каратэ. Наиболее активно покупают билеты жители Беларуси. Далее в этом списке граждане России, Германии, Ирландии, Литвы и Польши.

**– Вместимость трибун позволяет разместить всех желающих приобрести билеты?**

– Не на всех объектах, и поэтому разрабатываются новые виды билетов. Уже поступил в продажу новый билетный пакет на соревнования по пулевой и стендовой стрельбе, который дает право посещения сессий в специально выделенные стоячие зоны.

В ближайшее время в реализацию поступит аналогичный вид билета на соревнования по шоссейным велогонкам. Активный спрос на соревнования по художественной и спортивной гимнастике, а также дзюдо и каратэ дает возможность открыть верхние ярусы «Минск-Арены» и «Чижовка-Арены».

А вообще с начала продажи билетов на соревнования (с 1 декабря 2018 года) в кассы поступило примерно 10 процентов от всех билетных квот. Второй этап начнется в марте 2019 года. Тогда в продажу поступят билеты, которые были зарезервированы для партнеров и спонсоров, НОКов, официальных реселлеров, туристических операторов и агентов, а также других клиентских групп, но не были выкуплены. Третий этап стартует в мае, когда начнут продавать билеты, оставшиеся после финального утверждения телевизионных платформ.

### О сувенирах

– Часть лицензионной продукции уже поступила в продажу: кружки, магниты с символикой Игр. Спрос на нее изучался во время проходившего недавно в Минске чемпионата Европы по фигурному катанию. В результате он оказался повышенным.

В целом продажа сувенирной продукции во время Игр будет осуществляться на 25 площадках, в том числе на всех аренах, в Олимпийской деревне и четырех фан-зонах.

**Сергей НИКАНОРОВ.**

КСТАТИ

Министерство связи и информатизации Беларуси выпустило в обращение четыре почтовые марки из серии «II Европейские игры 2019 года». Каждая марка выходит тиражом 120 тысяч экземпляров.

Дизайн марок разработала художница Марина Витковская. На них изображены спортсмены, выступающие в разных видах спорта, а также расположены официальный логотип и слоган Игр.

***

К открытию Игр в столице появится несколько новых спортзалов. Игровые и тренажерные залы разместятся в пристройке к главной арене специализированной ДЮСШ олимпийского резерва по фигурному катанию на коньках, расположенной по соседству со студенческим городком в микрорайоне «Малиновка».

Предполагается, что до конца этого года они будут использоваться для проведения занятий юных фигуристов и хоккеистов, а минчане смогут здесь укреплять здоровье.

Белорусский производитель часовой продукции марки «Луч» стал национальным партнером Игр.

Приобрести памятные часы можно будет в специализированных магазинах предприятия, а также на объектах Игр и в фан-зонах.

***

Совет министров разрешил въезд в Беларусь по билету или копии электронного билета Европейских игр.

Как разъяснили в Погранкомитете Беларуси, виза при наличии билета не обязательна. При этом в Беларусь иностранные граждане с билетами смогут ехать через территорию России, для чего виза им также не потребуется.

***

К Европейским играм в Беларуси приготовлены карты гостя особого формата.

Карта включит в себя скидки на проживание в отелях, прокат авто и велосипедов, посещение музеев.

ФОТАФАКТ

## Па зборнай Германіі праехаў беларускі «каток»

*У чвэрцьфінале Кубка Федэрацыі каманда Беларусі разграміла нямецкую зборную з лікам 4:0.*

У паўфінале нашы тэнісісткі згуляюць 20–21 красавіка з камандай Аўстраліі, якая ў 1/4 фіналу перамагла ЗША (3:2).

Нагадаем, што ў мінулым годзе зборная Беларусі саступіла амерыканскай камандзе толькі ў фінале Кубка федэрацыі.

**Віктар ШПАК.**





**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.02.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 060 экз. Заказ № 524.

